# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 1 (17) 13 студзеня 1929 г. № 1 (17)

ЗЬМЕСТ.



## Нядбайнасьць, ці праступныя адносіны да справы.

Адным з самых балючых пытаньняў, якія яшчэ назіраюцца ў жыцьці працы нашых культасьветных установ, асабліва ў раёнах,—гэта слабая матар‘яльная забясьпечанасьць нашых установ падручнікамі, пісьмовымі прыладамі, апалам, асьвятленьнем, часта не адпавядаючыя санітарна-гігіенічным умовам для працы школьныя памяшканьні, асабліва наёмныя і г. д.

Праўда, выдаткі на гэтыя патрэбы з кожным годам павялічваюцца і павялічваюцца значна. Усё больш і больш адпускаецца сродкаў на здабыцьцё падручнікаў, пісьмовых прылад; будуюцца новыя школьныя будынкі, рамантуюцца старыя; паляпшаецца матар‘яльнае становішча і працаўнікоў культасьветных установ—павялічэньне пэнсіі, выданьне закону аб 10-ціпроцантнай надбаўцы настаўніцтву ў раёнах пры адсутнасьці кватэры, ці прадастаўленьні кватэры натурай і г. д.

Але-ж пры больш дэталёвым азнаямленьні з тымі дзеямі, якія адбываюцца ў некаторых раёнах і па сеньняшні дзень, дзіву даешся, і само сабою паўстае пытаньне, ці абавязковы для некаторых нашых раённых працаўнікоў тыя законы, якія выдаюцца нашым Савецкім Урадам, а калі абавязковы, дык чым тлумачыцца тое, што яны ня выконваюцца?

СНКБ зацьвердзіў дабаўку настаўнікам 1-га канцэнтру саміхгодак і адна, двух, трох і чатырох-камплектавых школ—у два рублі, а настаўнікам 2-га канцэнтру—у 10 руб. у месяц, і гэтая дабаўка, згодна пастановы Наркампрацы Беларусі ад 8-X-28 г., павінна была выдавацца з 1-X-28 году, а між іншым у некаторых раёнах пра гэта яшчэ і цяпер думаюць.

Пастановаю СНКБ ад 30-8-27 г. настаўнікам школ сацыяльнага выхаваньня, дзіцячых дамоў, дашкольных установ ва ўсіх мясцовасьцях, апроч гарадоў, павінны прадстаўляцца кватэры з апалам і асьвятленьнем, або давацца 10 проц. асноўнага заработку на гэтыя патрэбы, прычым гэтыя 10 проц. павінны выплачвацца разам з выплатай пэнсіі, а ў сапраўднасьці значная частка пэдпрацаўнікоў пакуль што толькі сьніць аб атрыманьні кватэрных разам з пэнсіяй.

Пастанова Наркампрацы ад 17-3-28 г. прадугледжвае выплату пэнсіі раённым працаўнікам паміж 20 і 30 кожнага месяца, а ў некаторых раёнах і ня думаюць лічыцца з гэтай пастановай і плацяць тады, калі ёсьць жаданьне.

Вось факты,—пішуць з Халопеніч (Меншчына): «**Халопеніцкі РМК паведамляе, што РВК дагэтуль ня выплаціў працаўнікам 2-га канцэнтру 7-мігодкі пэнсіі за сьнежань м-ц, а таксама датацыі ўсім настаўнікам 7-мігодкі за кастрычнік і лістапад і кватэрных грошай за кастрычнік—сьнежань 1928 г. Настаўнікам вясковых школ ня выплачана пэнсія за ліквідацыю няпісьменнасьці за сьнежань м-ц, кватэрныя за кастрычнік—сьнежань 1928 г.**

**Ня выплачаны грошы таксама за наём памяшканьня пад школы, што ставіць пад пагрозу спыненьня працы ў некаторых школах раёну**».

Адносіна напісана 2-1-29 г. за № 6.

А вось Вульскі раён (Полаччына): «**Ня гледзячы на тое, што была пастанова СНК аб выплаце пэнсіі да 10-цігодзьдзя БССР, а таксама на пункт дагавору, па якім пэнсія асьветнікам павінна выплачвацца не пазьней 1-га наступнага месяца, Вульскі райвыканком да 1-га студзеня 1929 году ня выплаціў пэнсіі асьветнікам за палову лістапада і за ўвесь сьнежань м-ц 1928 г.**

**Прымаючы пад увагу, што затрыманьне выплаты пэнсіі па Вульскім раёне сыстэматычна зацягвалася на працягу ўсяго 1928 г., Акрпраўленьне просіць прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці старшыню Вульскага РВК за парушэньне калектыўнага дагавору і пастановы СНК**».

Адносіна напісана 2-1—29 г. за № 1.

Такія-ж весткі паступаюць з **Бягомльскага раёну (Меншчына)** і інш.

А вось яшчэ прыклад уважлівых адносін да ўтварэньня „нармальных“ умоў працы ў школах. **Заеская школа Халопенічы.** У сьнежні 1928 году дзеці насілі па палену дроў у школу, каб выпаліць у печы і не замерзнуць, і гэта пад бокам сябра сельсавету.

Гледзячы на ўсе гэтыя факты, хочацца запытаць: таварышы, ці не пара паважаць інтарэсы працаўніка і агульнае нашае справы, ці не пара паважаць і выконваць савецкія законы?

**Мельнік.**

# Як наладзіць па-зашкольнае выхаваньне*).

Каб пабудаваць сацыялістычную грамаду, патрэбна ня толькі дасканалая тэхніка наогул і перабудова эканамічнага жыцьця, а патрэбна яшчэ і ўпартая праца па перавыхаваньню грамады ў належным напрамку.

Тут мы спыніліся на арганізацыі толькі аднаго боку выхаваньня—**пазашкольнага**, якое мае надта вялікае значэньне і якое не стаіць яшчэ на належнай вышыні з прычыны свае моладасьці, бо ў мінулым, да рэвалюцыі, гэты від выхаваньня ў нас зусім адсутнічаў. Па-за школаю была выхавальніцай дзяцей рабочых, сялянства і дробнага мяшчанства вуліца з усімі сваімі адмоўнымі бакамі і ваколічнае асяродзішча, якое вельмі рана ўцягвала дзяцей у сьвет распусты, лайдацтва і злачыннасьці.

Між тым, асяродзішча мае вельмі вялікі ўплыў на выхаваньне дзяцей. Яно перамагае нават прыроджаныя якасьці характару і заглушае іх. Асяродзішча нават вельмі часта «заядае» дарослых людзей.

Што мы маем цяпер? Зьмянілася ўцалку сыстэма выхаваньня ў школах, мы маем шмат устаноў пазашкольнага выхаваньня, як: дзіцячыя пляцоўкі, сады, клюбы, шмат дзяцей ахоплена піанэрскім рухам. Усё гэта адбірае даволі значную частку дзяцей ад вуліцы і нэйтралізуе ўплыў асяродзішча.

Але-ж значна большая частка дзяцей знаходзіцца яшчэ па-за гэтымі ўстановамі. Яшчэ вуліца і асяродзішча маюць даволі вялікую лічбу юных ахвяр і глытаюць іх, аб чым ня раз ужо заначалася на старонках „Працаўніка Асьветы“,

Прыходзіцца часта бачыць, як хуліганства бес перашкодна захапляе дзяцей і падлеткаў, асабліва на ваколіцах гарадоў. Між гэтымі дзяцьмі ня чуваць на вуліцы гутаркі аб школе, а больш гутарка «прыгодніцкага» грубага характару з агіднымі словамі. Забавы самыя грубыя, якія ня толькі ня носяць выхаваўчага характару, але маюць шкодны ўплыў, напрыклад, забава «ў п'яных» з міліцыяй. Шмат з іх п'е гарэлку з дарослымі і курыць. Чытаньнем кніжак мала цікавяцца.

Піанэрскі рух ахоплівае толькі адзінку, і трэба сказаць, што піанэры стаяць убаку ад гэтага складу дзяцей.

Трэба нешта рабіць, каб адгарадзіць дзяцей ад гэткага згубнага ўплыву асяродзішча, або хоць часткова нэйтралізаваць гэты ўплыў, бо вуліца захапляе ўсё новыя і новыя ахвяры ў свае кацюры і творыць сваю ганебную справу.

Патрэбна гэраічная барацьба і патрэбна якаясьці радыкальная рэформа ў педагагічнай працы.

У аснове я маю на ўвазе два прынцыпы, якія належыць праправаваць: першы—гэта **арганізацыя дзіцячага жыцьця па-за школаю**, а другі цесна зьвязаны з першым—**аслабленьне ўплыву на дзяцей акружаючага асяродзішча і ўтварэньне ўмоў, якія рабілі-б уплыў у пажаданым напрамку.**

Справа, вядома, вельмі цяжкая, але магчымая і неабходная.

Па-за школаю трэба арганізаваць дзіцячае жыцьцё так, каб ня вуліца была кіраўніцай і выхавальніцай гэтага жыцьця, а правільна арганізаваныя забавы і заняткі, гэта значыць: 1) прывучыць дзяцей да калектыўнай працы, прымаючы пад ўвагу мясцовыя ўмовы для магчымасьці арганізацыі гэткай працы—арганізацыя калектыўных гародаў, дрэванасаджэньня, прыбіраньне панадваркаў і г. д., для чаго трэба дзяцей з'арганізаваць у гурткі; 2) арганізаваць здаровыя гурткавыя забавы, якія садзейнічаюць правільнаму псыхафізычнаму разьвіцьцю; 3) наладжваць масавыя маршыроўкі і экскурсіі за горад і ў бліжэйшыя вёскі (а ў вёсцы—наадварот) дзеля азнаямленьня з прыродай і працай сялян; 4) прыцягнуць тэатр да абслугоўваньня дзяцей; 5) заснаваць раёныя дзіцячыя клюбы, дзе арганізаваць розныя гурткі, наладжваць агульныя чытаньні, гутаркі на розныя тэмы, спэктаклі, сьпевы і г. д. і г. д.

Вось такая арганізацыя дзіцячага жыцьця па-за школаю бязумоўна паб'е ваколічнае асяродзішча і створыць новае асяродзішча, дзе ня будзе на першым месцы злачыннасьць, лайдацтва, гарэлка, лаянка, а будуць здаровыя, разумныя і культурныя ўмовы жыцьця новага чалавека.

Цяпер застановімся на сыстэме ажыцьцяўленьня ўсяго сказанага вышэй. Тут нельга дасягнуць цалкам усяго толькі праз школы і выхаваўчыя пазашкольныя ўстановы, якія ня могуць ахапіць усіх дзяцей, па-за школай і па-за ўстановамі дзеці зноў апушчаюцца ў гушчу асяродзішча.

**Трэба прыцягнуць да гэтай вялікай справы самую грамаду** толькі разам з ёю і праз яе зможам дасягнуць вышэйпаказанай мэты.

Рэальны шлях, які зможа прыцягнуць грамаду да актыўнае дзейнасьці у даным напрамку — **арганізацыя грамадзкіх (ці бацькаўскіх) выхаваўчых камітэтаў**, якія змогуць арганізаваць усіх дзяцей па-за школаю ў гурткі і стаць на чале гэтых гурткоў.

Камітэты, вядома, павінны быць чыстымі ад мяшчанства і ў склад іх павінны ўвайсьці такія асобы, якія самі адчуваюць шкоднасьць уплыву асяродзішча і асазнаюць гэту шкоднасьць, а таксама з адпаведным сучаснасьці сьветапоглядам.

Сетка гэткіх камітэтаў павінна быць раскінута шырока па ўсіх раёнах і вуліцах гарадоў, а таксама на вёсках.

У аснове на камітэты ўскладаецца абавязак арганізацыі дзіцячага жыцьця ў сваім раёне па паказанай вышэй сыстэме і павесьці барацьбу з вуліцай.

Вядома, справа гэта павінна быць цэнтралізавана ў Наркамасьветы, які праз камітэты зьвяжацца з масамі, гэта папершае, а падругое — школа таксама праз камітэты будзе ў курсе справы дзіцячага жыцьця па-за школай і, ведаючы адмоўныя бакі гэтага жыцьця, зможа накіраваць свой адпаведны ўплыў у тым ці іншым напрамку.

Камітэты будуць у непасрэднай сувязі з бацькамі, на якіх таксама будуць мець уплыў. Праз камітэты і піанэрскі рух зможам ахапіць большы кантынгент дзяцей.

Камітэты, вядома, не павінны браць на сябе ролю адміністрацыйную, а толькі выхаваўчую: ладзіць лекцыі, гутаркі, спэктаклі, гульні, чытаньні, калектыўную працу і г. д., а таксама сачыць і выяўляць вулічныя лайдацтвы і па магчымасьці на месцы ліквідаваць іх.

Вось прыблізна канва тае сыстэмы пазашкольнага выхаваньня, якая аздаровіць дзіцячую гушчу, папярэдзіць разьвіцьцё злачынстваў, створыць спрыяючыя ўмовы дзіцячага жыцьця, дасьць напрамак арганізацыі новага жыцьця і поглядаў, адчыніць вочы і дасьць магчымасьць з больш узвышанага пункту погляду думаць аб грамадзе і ролі асобнага індывідууму ў ёй, створыць калектыўную працу і пашану да яе. Усё гэта прывядзе да перабудаваньня ўсяго наогул грамадзкага жыцьця на новых сацыялістычных пачатках.

М. Говар.

*) У парадку абмеркаваньня.

# Койданаўская багна.

Наш унівэрсытэт і пэдтэхнікумы кожны год даюць усё новыя і новыя кадры асьветнікаў. Запаленыя парывам да адбудаваньня новай школы—школы, праз якую павінна выхоўвацца будучая сацыялістычная грамада,—маладыя асьветнікі рассыпаюцца па ўсіх кутках краіны, нясучы з сабой сьвежую, здаровую плынь у пэдагагічна-выхаваўчай справе.

Першыя гады працы ў школе зьяўляюцца і гадамі далейшай вучобы, пэдагагічным практыкумам для маладога настаўніка. У гэтай справе яму дапамагаюць бліжэйшыя таварышы па працы—старыя настаўнікі, якія па пэдагагічных радах, на пэрыядычных сходах мэтбюро і канфэрэнцыях дзеляцца сваім вопытам з маладымі таварышамі. Разумеецца, значную ролю адыгрывае тут і інспэктарскі нагляд. Інспэктар—пэдагог, інспэктар—таварыш і кансультант дае напрамак правільнай пастаноўкі пэдагагічна-выхаваўчай справы ў школе. Сваімі наведваньнямі ў школы інспэктар уносіць ажыўляючы струмень у штодзённую працу, ён-жа падтрымлівае творчы дух маладога настаўніка, накіроўвае яго на правільную каляіну практычнай таварыскай парадай.

На вялікі жаль, ня ўсе інспэктары так разумеюць свае абавязкі ў адносінах да школы і настаўнікаў. Ня ўсе старыя настаўнікі зьяўляюцца апорай у працы маладых таварышоў. Часамі школьны калектыў сустракае новага свайго таварыша з прадузятай варожасьцю, ня мірыцца з яго творчымі юнацкімі імкненьнямі.

І тады, замест моцнай спайкі ў асьветную сям'ю—нелады, узаемныя падсіджваньні, склокі, якія ўсмактываюць часамі нават і інспэктара.

Як прыклад падобнага зьявішча, возьмем **Койданаўскую беларускую 7-мігодку.**

У канцы сьнежня месяца ў Койданаве адбываецца раённая настаўніцкая канфэрэнцыя. Асноўная задача канфэрэнцыі—падагуліць працу школ раёну за першае паўгодзьдзе і на падставах здабытага даць напрамак працы на другое паўгодзьдзе.

З дакладамі аб выніках абсьледваньня школ выступае **раённы інспэктар нарасьветы тав. Гамза.** Даючы малюнак працы школ раёну, ён спыніўся на недахопах у пастаноўцы навучальна-выхаваўчай справы некаторых школ, прычым абрушыўся на маладых настаўнікаў Койданаўскай сямігодкі, прызначаных у сёлетнім навучальным годзе.

Абвінавачваючы нібыта ў непэдагагічнам падыходзе да вучняў, інспэктар прыводзіў нават прыклады гэтай непэдагагічнасьці, стараючыся скампраметаваць маладых пэдагогаў.

Мы можа і не баранілі-б маладых койданаўскіх асьветнікаў, калі-б не адна акалічнасьць.

Акалічнасьць гэта досыць сталая: як выявілася, інспэктар ані разу не наведаўся на лекцыі маладых настаўнікаў, каб самому пазнаёміцца з іхнай працай.

Калі абураны маладняк горача пачаў у спрэчках па дакладу даказваць беспадстаўнасьць інспэктарскіх абвінавачваньняў, дык малюнак койданаўскіх падсіджываньняў выплыў ва ўсёй сваёй красе.

Прыпёрты да сьцяны інспэктар Гамза спрабаваў перакінуць усю віну **на настаўніка Сяліцкага,** які інфармаваў яго аб справах койданаўскай сямігодкі.

— **Ты-ж мне так казаў,**—насядаў інспэктар на свайго прыяцеля Сяліцкага.

У далейшых спрэчках выявілася, што загадчык сямігодкі Бялуга таксама не зьяўляецца вялікім прыхільнікам маладых пэдагогаў, абгаварвае іх па-за сьценамі школы, узводзіць розныя плёткі, кампраметуючы іх такім чынам.

Замест дзелавой працы, на канфэрэнцыі настаўніцтва Койданаўскага раёну змушана было перажыць асалоду яшчэ аднаго выбуху: ледзь трымаючыся на нагах, на канфэрэнцыю ўваліўся п'яны адзін са старых настаўнікаў сямігодкі, які таксама ўпрыгожыў абмеркаваньне справы сямігодкі дзікімі выкрыкамі па адрасу маладых настаўнікаў. Аказваецца, гэты-ж настаўнік часамі прыходзіць «пад хмяльком» і на пасяджэньні школьнай рады. Былі нават выпадкі, што ён, пад уплывам асабовага натхненьня, зусім безнаказана рваў пратаколы пасяджэньня.

Вось вам жыцьцёвая школа маладых настаўнікаў, вось вам і таварыская падтрыманьне з боку старэйшых таварышоў, вось вам і пэдагагічная кансультацыя інспэктара. Плёткі, склокі, падсіджываньні, п'яныя пасяджэньні. І на фоне ўсяго гэтага—местачковыя пазаўгольныя шэпты інспэктара, замест жывой практычнай дапамогі, замест неадкладнага ўмяшаньня ў Койданаўскае балота.

Правы былі маладыя настаўнікі, дамагаючыся пасяджэньня школьнай рады на другі-ж дзень пасьля зачыненьня канфэрэнцыі, каб выявіць гэта балота, асудзіць вінаўных яго ўзьнікненьня. На гэта-ж пасяджэньне былі запрошаны загадчык польскай 7-мігодкі **тав. Марцінкевіч, т. т. Мядзьведзяў і Ксяндзоў** (працаўнікі райкому партыі). І тут пакрыўджаныя маладыя асьветнікі патрабавалі, каб школьная рада рэабілітавала іх, рэзка асудзіўшы нетактычнасьць райінспэктара. Загадчык сямігодкі і настаўнік Сяліцкі, пры пільным падтрыманьні тав. Ксяндзова, усімі сіламі стараліся зьмякчыць пастаноўку пытаньня, спачуваючы свайму прыяцелю інспэктару. А тав. Ксяндзоў дык нават і іроніі трохі падпусьціў па адрасу маладых: «Подумаешь, они дают ему (инспектору) выговор!» (Ня варта, тав. Ксяндзоў, забывацца пра самакрытыку—гэту няпрыемную для некаторых штуку).

Усё-ж, ня гледзячы на стараньні і лавіраваньні «прымірэнцаў», школьная рада прыняла рэзалюцыю, якая хоць і ў далікатнай форме, але ганьбіць тактыку інспэктара з яго мэтадамі «абсьледваньня» школ і працы настаўнікаў.

На разьвітаньне, пасьля зачыненьня пасяджэньня школьнай рады, тав. Ксяндзоў рашыў выступіць яшчэ з «напутственным словом», у якім зазначыў па адрасу аднаго з маладых настаўнікаў:

— Вы, товарищ, на собрании может быть были очень нервны, но в своих выступлениях слишком горячились, особенно по вопросу о резолюции...

І ўжо больш аўтарытэтным тонам дадаў:

— **Советую вам быть более воздержанным, а то может быть похуже!..**

А мы са свайго боку раім т. Ксяндзову быць «более воздержанным», а то і сапраўды „может быть похуже". Што гэта—грубы зажым, затыканьне роту супроць здаровай крытыкі, супроць выкрыцьця бюракратычнага адміністраваньня?

У такіх абставінах працуюць і гартуюцца ў некаторых мясьцінах нашы новыя пэдагогі, у такой атмасфэры дзе-ні-дзе вучыцца і выхоўваецца працоўная дзетвара—будучыя будаўнікі новай сацыялістычнай грамады.

**Койданаўскую багну трэба неадкладна рассушыць.**

Я. П.

# ЗЬНІШЧЫМ ХЭДЭРЫ.

(Чавусы, Магілеўшчына).

У горадзе Чавусах да гэтага часу існуюць хэдэры, якімі ахоплена значная колькасьць яўрэйскіх дзяцей як дашкольнага ўзросту, так і тых дзяцей, якія наведваюць школы.

Да гэтага часу з хэдэрамі вялася барацьба праз працу сярод бацькоў, праз інспэктарскі нагляд, але практычных вынікаў гэта праца не дала. Мэламэды ходзяць з хаты ў хату і навучаюць там дзяцей.

На днях раённы інспэктар нарасьветы выявіў адзін хэдэр, якім кіраваў гр. Ашкіназі Гірша. На яго складзен пратакол і справа перададзена ў яўрэйскі нарсуд дзеля наладжаньня паказальнага працэсу.

К. А.

# ЗА НЯДБАЙНАСЬЦЬ ДА—АДКАЗНАСЬЦІ.

За апошнія два гады па нашаму саюзу працаўнікоў асьветы не назіралася ніводнага выпадку растраты саюзных сродкаў. І толькі не асабліва даўно выявілася, што растрата саюзных сродкаў зроблена былым сэкратаром Койданаўскага РМК, Менскай акругі гр. Хлебковічам на суму звыш 300 рублёў. Гр. Хлебковіча ў хуткім часе будзе судзіць наш пралетарскі суд за зроблены ім учынак. Зразумела, што за растрату грамадзкіх грошай Хлебковіч панясе належнае пакараньне і як растрачык і як адказная выбарная асоба, якой саюзная маса давярала, абіраючы ў склад РМК.

Але-ж ці справа толькі ў пакараньні? Зразумела, не. З гэтага факту растраты неабходна зрабіць належныя вывады ўсім праформганам, каб у далейшым папярэджваць такія ўчынкі з боку паасобных членаў саюзу. Хлебковіч 300 рублёў саюзных грошай растраціў на працягу прыблізна 3-4 месяцаў, тэрмін досыць значны, між тым ні мясцком, ні рэвізыйная камісія не заўважылі сваечасова факту растраты, пакуль не распачаў прымаць спраў МК новы сакратар.

Калі мясцком ня змог заўважыць сваечасова растраты, дык дзе-ж была і што рабіла рэвізійная камісія мясцкому? Па сутнасьці свае працы рэвізыйная камісія зьяўляецца вокам калектыву, яна рэвізуе ўсю дзейнасьць мясцкому і асабліва павінна сачыць за зборам членскіх узносаў, за правільнасьцю выдаткаваньня кожнай саюзнай капейкі. Калі рэвізійная камісія на працягу трох-чатырох месяцаў не рабіла рэвізій і гэтым самым аб'ектыўна дапамагала растраце, дык трэба разам з растрачыкам Хлебковічам на лаўку падсудных пасадзіць і рэвізыйную камісію. Калі-ж рэвізійная камісія рэвізавала дзейнасьць МК і грашовае становішча апошняга і не заўважыла ніякіх недарэчнасьцяў у справах, дык яна адносілася ці фармальна нядбайна да справы, ці пакрывала растрачыка. Як у адным, так і ў другім выпадку дзейнасьць рэвізыйнай камісіі трэба кваліфікаваць як злачынства, за якое рэвізыйная камісія павінна быць прыцягнута да адказнасьці.

Яз. Мацюкевіч.

# „Не хачу карыстацца завугольнымі крыніцамі".

(Магілеўшчына).

У нашым Чавускім раёне прыехаўшы сюды акруговы школьны інспэктар т. Сілкін прабыў цэлых 6 дзён, на працягу якіх агледзеў 9 культ-асьветных устаноў разам з прафтэхшколай і 7-мігодкай. Якія-ж вынікі гэтага абсьледаваньня?

Ня цікавіўся ён справай антырэлігійнага, інтэрнацыянальнага выхаваньня і наогул выхаваўчай справай школ.

Калі на агульна-грамадзкім сходзе настаўнікаў у выніку яго дакладу адзін настаўнік даў яму пытаньне аб тым, як у нас стаіць справа з антырэлігійным выхаваньнем, дык ён адказаў: **„Я гэтым ня цікавіўся і не хачу цікавіцца"**.

Далей, у часе яго справаздачы на прэзыдыуме РВК на пытаньне—ці праводзіў ён гутарку з прадстаўнікамі органаў вучнёўскага самакіраваньня і сакратаром школьнай ячэйкі ЛКСМ прафшколы, дзе выхаваўчая справа вельмі кульгае, ён адказаў: **«не хачу карыстацца завугольнымі крыніцамі»**.

Што гэта значыць, тав. інспэктар?!

„Чаго нам займацца справай антырэлігійнага выхаваньня, калі нават акруговы інспэтар ёю ня цікавіцца— могуць падумаць некаторыя настаўнікі. Або адносна органаў вучнёўскага самакіраваньня, ці школьнай ячэйкі ЛКСМ. У нас ужо даўно настаўніцтва разумее, што гэтыя арганізацыі—не завугольныя, а зусім легальныя і дапамагаюць гэтым арганізацыям у падняцьці іх аўтарытэту, хіба за выключэньнем загадчыка прафтэхшколы т. Харкевіча.

К.

# Не заўсёды школьная зямля—бяльмо на воку.

У скарыстаньні школьных вучасткаў дзеля ўтварэньня на іх узорных дасьледчых гаспадарак ёсьць шмат перашкодаў. Галоўныя з іх наступныя: большасьць настаўніцтва слаба падрыхтавана ў галіне сельскай гаспадаркі; падругое, адсутнасьць матар'яльнай базы, слабы інструктаж настаўніцтва з боку раённай аграноміі ў гэтым напрамку і няўключэньне школьных вучасткаў у лік аб'ектаў дзеля правядзеньня шэрагу плянавых аграномічных мерапрыёмстваў; адсутнасьць у органаў НКА і НКЗ плянавых пачынаньняў па скарыстаньні школьных вучасткаў па прызначэньню; апрача гэтага, часта школьныя вучасткі раскіданы ў чатырох-пяці палосках, на адлегласьці 2-3 кілёмэтраў ад школы.

Але ня гледзячы на гэтыя хібы, ёсьць школы, дзе праца на школьных вучастках пастаўлена добра, дзе робяцца ўсе захады, каб гэты вучастак зрабіць ўзорным, дасьледчым, карысным для сялянства. Дзеля прыкладу возьмем школы **Крупіцкую і Пяцеўшчынскую**, Самахвалавіцкага раёну, дзе з 1928 году ўведзен 8-міпольны севазварот. Гэтыя школы знаходзяцца ў раёне крахмальнага заводу і буйнага маслабойна-сыраварнага заводу. Прымаючы пад увагу гэтыя асаблівасьці нашай мясцовасьці, севазварот уведзен наступны: 1) папар чорны, частка з вікай, 2) жыта, 3) бульба і іншыя караньплоды, 4) ярына з канюшынай, 5) канюшына аднагадовая, 6) канюшына двухгадовая, 7) бульба, 8) ярына.

Шматпольны севазварот даў эфэктыўнае павялічэньне ўраджайнасьці. Ураджайнасьць аўса ў мінулых гадох з гэктару—60 пудоў, сёлета—140 пуд., канюшыны ў гэтым годзе з гэктару—300 пуд., бульбы—1000 пуд., буракоў з 120 кв. саж.—180 пудоў.

Увосень на школьным вучастку Пяцеўшчынскай школы аграномічная навуковая станцыя заклала дасьледчы вучастак жыта па мінэральнаму ўгнаеньню. Частка школьнага гароду адведзена пад пладовую школку, дзе мінулай вясной пасаджана 150 сеянцаў, а ў канцы лета яны прышчэплены. Мяркуецца вясной 1929 году пасадзіць яшчэ 500 штук.

Настаўнікі гэтых школ падрыхтаваны да вядзеньня ўзорнай гаспадаркі на школьным вучастку; адзін скончыў с.-гасп. курсы, другі мае аграномічную асьвету і 8-гадовы аграномічны стаж працы.

Асьветнік.

Самахвалавіцкі р., Меншчына.

